


Валя Янцэвіч з Чыжоў, лаўрэатка конкурсу «Беларуская песня-75», атрымала ўзнагароду «Зоркі» — фотаапарат.

Фота Я. Цялушэцкага

№ 26 (909) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 29.VI.1975 г.

# ЯК КОТ ЗВЯРОЎ НАПАЛОХАЎ

**БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА**

Жыў дзед ды баба. І быў у іх кот. Дзед кашалі плёў, баба кудзелю прала, а кот паляваць на мышэй хадзіў.

Вось пайшоў раз кот у лес на паляванне і заблудзіўся.

Шукаў, шукаў дарогу дадому — не знайшоў. Сеў пад ялінай і плача.

Бяжыць лісіца. Убачыла ката, заглядзелася. Ніколі яшчэ такога звера ў сваім лесе не сустракала!

— Хто ты такі будзеш? — пытаецца.

— Я — Кот Мурлыковіч.

— А чаго ты плачаш, Кот Мурлыковіч?

Расказаў ёй кот аб сваёй прыгодзе.

— Хе, — кажа лісіца, — каб толькі тае бяды! Ідзі да мяне жыць. Будзеш у мяне за гаспадара.

— Добра, — кажа кот.

Вось прыходзіць ён да лісіцы. А ў яе курэй — і смажаных, і вараных. Наеўся кот і спаць уклаўся.

Тым часам бяжыць па лесе воўк: топ-топ, шлёп-шлёп!

Пачула лісіца, выскачыла з хаты ды як закрычыць:

— Хто гэта ў маім лесе стукоча-тупоча? Хто майму гаспадару спаць не дае?

— А хто ж у цябе гаспадар? — пытаецца воўк.

— У мяне не гаспадар, а гаспадарышча, хвост з памялішча: як махне, дык адразу заб'е!

Узяла воўка цікавасць. Ён і кажа:

— А ці нельга было б, кумка, хоць адным вокам паглядзець на твайго гаспадара?

— Паглядзець то можна, — адказвае лісіца, але без падарунка лепш не прыходзь. Мой гаспадар падарункі любіць.

— Добра, будзе падарунак, — сказаў воўк і пабег далей.

Вярнулася лісіца ў хату.

А тым часам ідзе па лесе мядзведзь: трэсь-лом, трэсь-лом, трэсь-лом!

Пачула лісіца, выскачыла з хаты ды як закрычыць зноў:

— Хто гэта ў маім лесе трашчыць? Хто майму гаспадару спаць не дае?

— А хто ў цябе гаспадар? — пытаецца мядзведзь.

— У мяне не гаспадар, а гаспадарышча, хвост з памялішча: як махне, дык адразу заб'е.

І мядзведзя ўзяла цікавасць: які такі гаспадар у лісіцы, што хвастом усіх забівае? Вось ён і кажа:

— А ці нельга было б, лісічка-сястрычка, хоць паглядзець на твайго гаспадара?

— Паглядзець можна, — кажа лісіца. — Толькі без падарунка не прыходзь. Мой гаспадар падарункі любіць.

— Добра, падарунак будзе, — сказаў мядзведзь і пайшоў далей.

Прабеглі яшчэ дзік-сякач і заяц-шарак. Лісіца і іх сваім гаспадаром напалохала.

Сабраліся звяры і моцна задумаліся: якія ж ім падарункі лісінаму гаспадару прынесці?

Думалі-думалі, нарэшце мядзведзь і кажа:

— Вось што, браткі, трэба смачны абед згатаваць ды ў госці яго з гаспадыняй запрасіць. Тады ўсе разам і паглядзім.

— Добра, няхай будзе так, — згадзіліся звяры.

І тут зноў яны моцна задумаліся: які абед згатаваць?

Думалі-гадалі, нарэшце мядзведзь і кажа:

— Я прынясу мёду калоду.

— А я — барана, — кажа воўк.

— А я — жалудоў, — кажа дзік.



— А я — салодкай капусты, — кажа заяц.

Згатавалі абед і пачалі раіцца, каму запрашаць ісці.

Мядзведзь кажа:

— Я тоўсты, мне хадзіць цяжка.

Воўк кажа:

— Я і так набегаўся, мне ногі баляць.

Дзік кажа:

— А я складна гаварыць не ўмею.

А заяц нічога не сказаў. Вось і парашылі паслаць яго як лягчэйшага на ногі.

Прыбег заяц да лісінай хаты, пастукаў лапкай у шыбіну, зажмурыўся ад страху ды прапішчаў спалоханым голасам:

— Дзень добры вам, шаноўныя гаспадары! Прасілі мядзведзь, воўк і дзік, каб вы ласкавы былі, да іх у госці прыйшлі.

Сказаў так адным духам ды ходу назад.

Падрыхтаваліся звяры гасцей сустракаць. Сядзяць ля багатага стала, чакаюць, аб лісіцыным гаспадару разважаюць. Вось заяц і кажа:

— Не, браткі, сядзець так боязна. Хто яго ведае, які там гаспадар у лісіцы? А што калі ён абеду нашага не ўпадабае ды ўсіх нас хвастом пазабівае?.. Давайце лепш схаваемся і спярша здалёк на яго паглядзім.

Згадзіліся звяры з мудрай зайцавай парадай ды пачалі хавацца.

Мядзведзь на дуб улез, дзік у мох зашыўся, воўк пад куст забраўся, а заяц у траве схаваўся.

Тым часам узяла лісіца пад руку свайго гаспадара, і пайшлі яны ў госці.

Прыходзяць на палянку. Чуе кот — мясам запахла. Бачыць — цэлы баран ляжыць.

Тут ён шэрсць наставіў, вусы натапырыў ды адразу на барана накінуўся.

Есць ды ўсё бурчыць: «Мяў-у, мяу-у!»

Звяроў аж страх узяў. Ім здалося, што ён крычыць: «Мала, мала!»

**(Працяг на стар. 8)**

*Вядомаму беларускаму дзіцячаму пісьменніку* ***Уладзіміру Дубоўку*** *2 ліпеня спаўняецца 75 гадоў. Віншуем юбіляра і ад імя чытачоў жадаем пісьменніку ўсяго найлепшага, а чытачам прапануем ўрывак з апошняй, аўтабіяграфічнай кніжкі Уладзіміра Дубоўкі «Пялёсткі».*

# НАВУЧЫШСЯ ЗДАБЫЦЬ — НАВУЧЫСЯ І СПАЖЫЦЬ

Я пачаў жаліцца, прыгнаўшы каровы, што ў мяне нехта з'еў мой абед. На другі, на трэці дзень — таксама. Маці здзівілася.

— Можа, да цябе якія сябры прыходзілі?

— Ды не, нікога не было.

Пачала мяне маці распытваць, дзе я трымаю свой абед. Я сказаў, што, прыгнаўшы каровы на пашу, кладу торбачку пад дубочкам, у кустах.

— Э-ге, — кажа маці, — паспрабуй павесіць на дубку, а сам адыдзіся ды панаглядай ціхенька.

Назаўтра я так і зрабіў. Толькі сеў у ядлоўчыку, павесіўшы сваю торбачку з лустаю на дубовы сучок, як наша маладая карова кінула адразу шчыпаць траву ды бегма да дубочка. Крыху яна не дацягнулася губамі да торбы, тады ўзнялася на дыбкі і скінула маю торбачку на зямлю. Прыбег я, а яна зубамі торбачку паспела развязаць, толькі-толькі маю лусту не з'ела.

Я на яе сварыцца, а яна адышлася да сваёй маткі, пасецца побач ды толькі адным вокам за мной наглядае, ці не пайду я куды далей, ці не дастанецца ёй смачная луста.

— Ах ты, — кажу да яе, — нягодніца!

А яна як бы ў адказ мне і зарыкала. Чую, нібыта вымаўляе яна:

— А хіба я табе малачка не даю? А ты і пачаставаць мяне лустачкай не хочаш...

Пасля пачаў я ёй па маленькім кавалачку хлеба даваць, калі сам палуднаваў, але торбачку вешаў так, што яна больш не дастала ні разу. Калі пра гэта ўсё я расказаў сваёй маці, яна толькі смяялася.

— Усё ў жыцці так. Для цябе навука. Навучышся здабыць — навучыся і спажыць.

## ЧОРНАЕ І БЕЛАЕ

Споўнілася мне восем гадоў. Кавалер, як бачыце, ладны. Пачаў, зразумела, на дзяўчынак пагляДаць. А была ў нас адна, яе звалі Мілачка. Вучылася яна ў Вільні, у жаночым епархіяльным вучылішчы. А прыгожая, прыгажэй ад яе няма больш на свеце. І была вельмі добрая характарам. Яна не ганарылася ні бацькавым станам, ні тым, што сама вучыцца ў вялікім горадзе, ні тым, што я вясковы хлапчук і пастушок, апрануты кепска.

Пабачыўшы, што я ганю каровы дадому, яна заўсёды гукала мяне

з саду, дзе бавілася з маёй сястрой Тосяй.

— Уладзік, хадзі сюды, на гігантах пабегаем.

А гіганцкія крокі, пастаўленыя ў іхнім садзе, мелі чатыры вяроўкі. Дзве дзяўчынкі, я трэці, падабраўшы дзве вяроўкі, бегаем, падлётваем хто ведае ў якую вышыню.

Вось я падлётваў на гэтык дзвюх вяроўках, разгойдваючы дзяўчынак. Раптам пачуўся трэск і я адчуў, што вяроўкі зашморгалі па маёй уласнай скуры. Саскочыўшы, я памацаў рукою і выявіў, што мае штонікі лопнулі ад самага паяска і да нізу.

Мая юная паненка пашкадавала мяне.

— Не бядуй, Уладзік! Я зараз зрапарую твае майткі, — так падалікатнаму звалі ў нас штонікі. Яна збегала дамоў, прынесла ніткі, іголку і на мне зліквідавала прарыў.

Я вельмі шчыра і пачціва падзякаваў сваёй юнай даме за такую дапамогу, але бегаць больш не схацеў, тым больш, што клікалі вячэраць.

Павячэраўшы, я прайшоў нечага па хаце. Раптам маці пытаецца:

— Уладзік! Што за дзіва-дзіўнае? У цябе штонікі ззаду зафастрыгаваны белымі ніткамі. Як гэта здарылася?

Ажно мая слаўная паненка зашыла мае чорныя штонікі белымі ніткамі.

Усе пачалі смяяцца.

Гэты выпадак запомніўся мне на ўсё жыццё. І ўжо дарослы, куды б я з дому не адлучаўся, браў з сабою пакрысе чорных і белых нітак ды іголку, каб не клікаць нікога на дапамогу ў такой справе і не зашываць чорнае белым ці наадварот.

С. Грахоўскі

# ЧАЛАВЕКУ ПАТРЭБНА...

*Чалавеку патрэбна не слава,*
*А людская адвага і ласка,*
*І сардэчнае шчырае слова,*
*І вясёлая добрая казка.*

*Чалавеку патрэбна усмешка*
*Незнаёмых вачэй і знаёмых,*
*Каб дажджамі размытая сцежка*
*Стала лёгкай на кручах і стромах.*

*Чалавеку не трэба спагады, —*
*Дабрата чалавеку патрэбна,*
*Каб, мінаючы прорвы і спады,*
*Узбірацца на стромыя грэбні.*

*Каб сяброў сустракаў клапатлівых*
*На дарогах далёка ад дому*
*І каб сам быў заўсёды шчаслівы,*
*Калі шчасце прыносіць другому.*



**«Беларуская песня-75»**

# Найлепшы быў дуэт

Валя Янцэвіч і Аля Юшкевіч з Чыжоў не думалі, што зоймуць першае месца. Праўду кажучы, іх дасканалае выступленне было неспадзеўкай для многіх.

Дзве невялічкія дзяўчынкі ў нацыянальных касцюмах, вышываных дзіцячымі рукамі на ўроках практычных заняткаў, вучаніцы 7 «А» класа чыжоўскай школы, выйшлі на сцэну і бойка... (не, гэта не тое слова), чароўна заспявалі дзве беларускія песні: «Над ракою ў спакоі» і «А ў полі вярба».

Бурныя воплескі ўскалыхнулі залу Галоўнага праўлення БГКТ. Быў якраз дзень 1 чэрвеня, Міжнародны дзень дзіцяці, калі адбываўся там цэнтральны агляд конкурсу для школьнікаў «Беларуская песня-75».

Валя і Аля перамаглі бесканкурэнцыйна. Іх цудоўны дуэт на два галасы вылучаўся выразна сярод рэшты ўдзельнікаў.

А дзяўчаты ўжо меркавалі, што нічога не выйдзе. І трэба ж было незадоўга да конкурсу захварэць Валі выросткам. Аперацыя, лячэнне... Потым трэба было даганяць школьную праграму. А Валі ж яшчэ трэба штодзень дабірацца да школы з калёніі. Часу на рэпетыцыі заставалася нямнога. І дзяўчынкі пачалі ўжо было сумнявацца ў сваіх сілах: ці маем права ехаць у Беласток на цэнтральны агляд, ці не лепш паехаць проста ў Гайнаўку і выступіць там на свяце моладзі?

Настаўніца музычнага выхавання Ніна Паўлючук, іх верная апякунка, вырашыла, аднак, цвёрда: дзяўчаткі прымуць удзел у фінале песеннага конкурсу! І не памылілася. Дзяўчынкі заваражылі і слухачоў, і журы. Заваявалі яны не толькі першае месца ў катэгорыі дуэтаў. Валя Янцэвіч, як адна з наймалодшых і наймілейшых удзельніц, атрымала яшчэ спецы-



*Аля Кузьміцкая з Гарадка заняла першае месца ў катэгорыі салістаў.*



*Аля Рагоза з Орлі заняла другое месца.*

яльную ўзнагароду «Зоркі» — фотаапарат.

Другое месца сярод дуэтаў занялі Валя Себятынская і Валя Бурак з Пашкоўшчыны, а трэцяе — Бася Банькоўская і Аля Лапух з Орлі.

Першае месца сярод салістаў заняла Аля Кузьміцкая з Гарадка. Заспявала яна беларускія песні «Наш Нёман» і «Мой край». У Алі вельмі добры голас. Хаця вучыцца яна ў сёмым класе, ужо мае цвёрды намер паступіць у сярэднюю музычную школу ў Беластоку на вакальнае аддзяленне. Думаецца, што выбар добры.

Другое месца сярод салістаў заняла Аля Рагоза з Орлі. У яе таксама прыемны голас, прыгожая інтэрпрэтацыя. Асабліва ўсім спадабалася песня «Дубок» у яе выкананні.

У цэнтральным аглядзе прынялі ўдзел усяго два вакальныя калектывы — квартэт з Плёсак і трыо з Тынёвіч. Ім прызнаны два другія месцы ў катэгорыі калектываў.

Слухаючы ўважліва ўсіх удзельнікаў фіналу сёлетняга песеннага конкурсу для школьнікаў, мне падумалася: «Якая добрая мова, якая ўмелая інтэрпрэтацыя!» Відаць, шмат папрацавалі настаўнікі з дзецьмі. Калі ж да гэтага даходзяць добрыя галасы... Шкада толькі, што музычныя апекуны не заўсёды дбаюць аб тым, каб усё было згодна з мэтамі конкурсу. Калі конкурс выразна называецца: «Беларуская песня-75», дык чаму Пеця Ваўранюк з Веек выступае з рускімі песнямі? Іншая справа, каб гэта быў конкурс савецкай песні... Чаму Аля Гаўрылюк з Беластока, дзяўчынка з добрым голасам і абазнаная са сцэнай, на школьным конкурсе спявае зусім не мастацкую і не сцэнічную песню пра «сам жэнэ»? Няўжо ж ёсць мала беларускіх прыгожых песень, няхай сабе нават і не зусім дзіцячых, але адпаведных на конкурс?

Думаю, што дзеці — будучыя ўдзельнікі гэткіх конкурсаў і іх апекуны звернуць увагу на гэтыя справы, калі будуць рыхтавацца ў наступным годзе. Жадаем ім поспехаў.

**Ада Чэчуга**

**Фота Я. Цялушэцкага**

(Працяг са стар. 3)

## Як кот звяроў напалохаў

— Ну і звяруга! — кажа воўк. — Мне б і за дзень з такім рагалем не ўправіцца, а яму на раз мала...

Дзік ляжаў, ляжаў у моху ды ад страху пачаў хвастом варушыць. Кот падумаў, што мыш з норкі вылазіць. Скокнуў туды і ўчапіўся кіпцюрамі ў дзікаў хвост.

Як усхопіцца дзік, як пусціцца наўцёкі! Толькі галлё трашчыць.

Кот напружыўся ды скок на дуб!

« Ну, — думае мядзведзь, — гэта ён мяне ўбачыў. Трэба ратавацца, пакуль не позна».

Грымнуўся мядзведзь з дуба проста на куст, пад якім воўк сядзеў. А таму здалося, што гэта сам лісіцын гаспадар на яго напаў. Усхапіўся воўк ды ходу далей ад бяды. А мядзведзь за ім: трэсь-лом! трэсь-лом!

Уцякалі яны так, што заяц іх ледзьве праз гадзіну дагнаў.

Дагнаў і кажа:

— Каб не паслухалі мяне ды не схаваліся, ён бы нас усіх з'еў. Ну і страшэнны звер!

А кот з хітрай лісіцай нагасцяваліся ды пайшлі сабе дахаты.

М. Федарук

## ЗАГАДКІ

*Не суча нітак, не тчэ ніколі,*
*А столькі белых абрусаў мае,*
*Што лес, і рэчку, і луг, і поле,*
*Як прыйдзе, імі пазасцілае.*

* ☆ *

*Шэрая стужка бяжыць ад парога*
*Без краю-канца. А завецца д.....*

* ☆ *

*Цякло, цякло і лягло пад шкло.*

* ☆ *

*Без голасу, а вые,*
*без рук, а абрусы сцеле.*

* ☆ *

*Зімой камлём уверх расце,*
*вясной памірае. Хто адгадае?*

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



**Падзялі прамавугольнік дзвюма прамымі лініямі так, каб у кожным кавалку сума лікаў раўнялася 20.**

Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Zorka" BZGraf.